ПРАВА АБАРОНЧЫ ВЕСНІК
СПЕЦВЫПУСК, 2013
ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Праваабарончы цэнтр «Вясна» распачаў працу ў новым офісе
СТАР. 3

Гомельскі абласны суд знайшоў новы спосаб абмежавання правоў грамадзян
СТАР. 8

# Ідэолаг адкрытай беларушчыны



***У асабістым архіве Алеся Бяляцкага ёсьць успаміны, у якіх ён апісвае, як упершыню, у першай палове 80-х, адзначаў Дзень незалежнасьці разам з сябрамі і аднадумцамі, сярод якіх - Вінцук Вячорка, Сяржук Сокалаў, Сяргей Дубавец, Алесь Суша, Ірына ды Ігар Марачкіны.***

*“Сабраліся мы, маладыя, з гарачымі сэрцамі і запаленымі вачыма, пад нашым сьцягам і сьвяткуем Дзень незалежнасьці вольнай Беларусі, “за якой мы ідзем”. Тая Беларусь была несавецкай і незалежнай. Было адчуваньне чагосьці вельмі важнага, важнага рубяжу як для мяне асабіста, пасьля чаго шляху назад ужо няма, так і для справы, якой мы пакляліся прысьвяціць сваё жыцьцё. Бо былі мы ўжо не па адным, а ў купе, і кожны з нас мацаваў адзін аднаго. І была моцная юнацкая вера, што жыцьцё скіравана ненадарма, што ідэі, якія мы падхапілі з рук панішчаных “бацькоў БНР”, будуць жыць”.*

Сёньня, калі Алесь Бяляцкі знаходзіцца за кратамі, яго не стае ня толькі сябрам маладосьці, з якімі разам ён марыў пра вольную Беларусь, але і ўсяму беларускаму грамадству. "Ідэолагам адкрытай беларушчыны" называе Алеся Бяляцкага журналіст і літаратар Сяргей Дубавец: “Яго не стае грамадству як ідэолага адкрытай беларушчыны, з ягонай гатоўнасцю ўпісваць Беларусь у нейкія маштабныя шматлюдныя праекты, якія вонкава, можа быць, ніяк не афарбаваныя нацыянальна. Ён іх афарбуе абавязкова. І гэта ўсё ўрэшце ператвараецца ў зародкі сапраўднага беларускага грамадства. І сёньня, калі ў беларускім асяродку ідуць жорсткія палемікі, дыскусіі і нават сваркі, [не стае] такога чалавека, які проста паглядзеў бы на гэта ўсё са сваёй абаяльнай усьмешкай, проста рабіў бы справу, далей аб'ядноўваў людзей, рушыў у будучыню. Ну і мы б пацягнуліся ўсьлед за ім”.

У 80-ыя гады XX стагоддзя Алесь Бяляцкі далучыўся да антыкамуністычнага руху, да дзейнасьці нелегальных і паўлегальных нефармальных моладзевых арганізацый, якія, па сутнасьці, заклалі падмурак для фармаваньня структур грамадзянскай супольнасьці ў сучаснай Беларусі. Цалкам лагічна, што тэрмін "civil Society" перакладаецца на беларускую мову як "грамадзянская супольнасьць", а слова "супольнасьць" з'яўляецца аднакарэнным са словам "суполка" - так называліся нефармальныя арганізацыі ў 80-ыя гады, якія зьявіліся папярэднікамі сучасных няўрадавых арганізацый (НДА).

*«Сітуацыя ў Беларусі, калі ўзяць шырэй, была цікавая, бо гэта быў 1983 год, год тэрору, калі разграмілі ўвесь дысідэнцкі рух у Расіі. Улады дазвалялі ім дзейнічаць у 1981 годзе, у 1982-м, а ў 1983-м усё фактычна было спынена. Частка людзей была выслана з Савецкага Саюзу, частка зьняволена. Быў разгромлены ўкраінскі нацыянальны рух. А ў нас тым часам пайшла нейкая хваля. Улады не прасачылі, што гэта ўсё аднаго разліву - "з адной бочкі віно", што разлівалася і на Украіне і ў Літве. Бо калі б у 1983-м правялі шэраг рэпрэсій… Тады нават ня трэба было саджаць шмат людзей. Досыць было проста нейтралізаваць. Сярод метадаў - выгнаць з ВНУ. А на той час пасля гэтага ты ня мог знайсці нідзе нармальную працу.*

**(працяг на 2 стар.)**

# Валянцін СТЭФАНОВІЧ: Беларускім праваабаронцам немагчыма атрымаць фінансавую дапамогу з-за мяжы



*Прынята рэзалюцыя ААН з мэтай пакласці канец фінансаваму ўдушэнню няўрадавых дэмакратычных арганізацый у розных краінах свету. Наколькі гэты дакумент актуальны для Беларусі? Чаму рэзалюцыю называюць беспрэцэдэнтнай? Ці можа яна паўплываць на лёс Алеся Бяляцкага? Аб гэтым карэспандэнт “Народнай Волі” гутарыць з праваабаронцам Валянцінам СТЭФАНОВІЧАМ.*

— Рэзалюцыя была прынята 21 сакавіка, — распавядае суразмоўца. — Для Беларусі гэты дакумент удвая актуальны, таму што справа нашага калегі Алеся Бяляцкага наўпрост звязана з тым, што ён атрымаў 4,5 года за атрыманне фінансавай дапамогі ад замежных фондаў менавіта для праваабарончага цэнтра “Вясна”, які быў у свой час зачынены ўладамі. А ў прынятай рэзалюцыі сцвярджаецца, што “ніякі закон не павінен крыміналізаваць або пазбаўляць легітымнасці дзейнасць у абарону правоў чалавека з прычыны паходжання фінансавання”. Дадам, што напярэдадні было і рашэнне Рабочай групы ААН па адвольных затрыманнях па справе Бяляцкага, у якім падкрэсліва-ецца, што дзяржава мае не толькі так званыя “негатыўныя” абавязацельствы (неўмяшальніцтва ў дзейнасць праваабарончых арганізацый), але і “пазітыўныя” – спрыянне і стварэнне належных ўмоў для такой дзейнасці. Існуюць міжнародныя нормы, якія гарантуюць права атрымання фінансавання з-за мяжы. І ў выпадку з Алесем яго асуджэнне кваліфікавана менавіта як парушэнне дзяржавай арт.22 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, а менавіта – свабоды асацыяцый. Гэта вельмі знакавае рашэнне з боку ААН. І Беларусь, згодна са статутам ААН, павінна яго выконваць.

**— Рабочая група ААН канстатавала, што выхадам з сітуацыі было б вызваленне спадара Бяляцкага і прадастаўленне яму законнага права на кампенсацыю…**

— І канстатавала, што сродкі, атрыманыя на замежны банкаўскі рахунак праваабаронцы, былі часткай сістэмы фінансавання няўрадавай арганізацыі "Вясна", якой урад адмовіў у рэгістрацыі.

**— Ці не здарыцца так, што беларускі ўрад у чарговы раз проста праігнаруе чарговую рэзалюцыю?**

— Магчыма, і так, але ж, паўтаруся, размова ідзе пра выкананне міжнародных абавяза-цельстваў у галіне правоў чалавека, якія беларускі бок добраахвотна на сябе ўзяў. Я мяркую, што будуць і нейкія наступныя крокі, скіраваныя на тое, каб нагадаць Беларусі аб гэтым. Магчыма, варта чакаць зваротаў у МЗС з боку міжнародных праваабарончых арганізацый, бо менавіта МЗС адказвае за выкананне міжнародных дамоў. Улады, натуральна, пры кожным зручным выпадку падкрэсліваюць, што “справа Бяляцкага” — звычайны крымінал, але ўсім добра вядомы яе палітычны падтэкст. Высновы суда, што сродкі, якія паступалі на рахунак, з'яўляліся яго асабістым прыбыткам, не былі падмацаваны адпаведнымі доказамі. А ўказанні пракуратуры г.Мінска аб неабходнасці накіравання запытаў у адпаведныя фонды, каб устанавіць мэты пералічэння грошай, так і не былі выкананы ні следствам, ні судом. Хоць, паводле нашага падатковага заканадаўства, грашовыя сродкі, якія скіраваны для перадачы трэцім асобам, не абкладаюцца падаткам.

**— Чаму беларускія праваабаронцы называюць рэзалюцыю беспрэцэдэнтнай?**

— Таму што раней такога кшталту дакументаў не было. Гэта вельмі важна для такіх краін, як Беларусь, Алжыр, Бангладэш, Бахрэйн, Егіпет, Азербайджан, нават Расія… Дарэчы, у Расіі адбыліся апошнія змены ў заканадаўстве, і зараз там арганізацыі, якія атрымліваюць замежнае фінансаванне, павінны самі сябе задэклараваць як замежныя агенты. Пачаліся таксама рознага кшталту пераследы няўрадавых арганізацый. А ў нас мала таго, што дзейнасць незарэгістраваных арганізацый разглядаецца як крымінальнае злачынства, дык і атрыманне замежнай дапамогі знаходзіцца ў гэтым жа прававым полі. Механізмы, якія існуюць ў краіне, фактычна робяць немагчымым атрыманне такой дапамогі з-за мяжы для праваабарончых арганізацый. У нас дзяржава вырашае, ці можа тая ці іншая арганізацыя атрымліваць фінансаванне. А гэта ўжо ўмяшальніцтва ў дзейнасць арганізацый.

# Ідэолаг адкрытай беларушчыны (пачатак на 1 стар.)

Але ў Беларусі рэпрэсій да пэўнага часу не было, і гэта сьведчыць пра пра тое, што мы будавалі працу досыць разумна. Бо схапіць студэнтаў за тое, што яны сьпяваюць песьні, гэта не ўваходзіла ні ў якія рамкі. Мы правільна пабудавалі сваю працу, сыходзячы з той сітуацыі, якая была. Не пайшлі на адзіночныя акты – вывешванне сцягоў альбо плакатаў, правядзенне дэманстрацый у дзень правоў чалавека. Асноўную актыўнасьць мы ськівавалі на працу ў гэтых паўлегальных арганізацыях. І гэта было вельмі важна асабліва ў тыя часы, калі было бачна, што Савецкі Саюз хутка лясьне. Нацыянальныя свабоды мы ўспрыймалі ў зьвязку з дэмакратычнымі свабодамі. Мы бачылі незалежную Беларусь, але таксама і дэмакратычныя свабоды – свабоду слова і сходаў, сацыяльную абароненасьць беларускіх грамадзянаў”.

Так узгадваў Алесь Бяляцкі пра сваё далучэньне да грамадскага руху.

**spring96.org**

**КАМЕНТАРЫІ З НАГОДЫ**

*Суэр БЕЛХАСЕН, прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека:*

— Рэзалюцыя — гэта моцны сігнал падтрымкі, дасланы Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый абаронцам ва ўсім свеце, якія не маюць магчымасці фінансавання іх дзейнасці, пазбаўлены законнага статусу і часта трапляюць пад крымінальную адказнасць за сваю праваабарончую працу. А рашэнне Рабочай групы ААН — гэта знакавая перамога, так як яно прызнае, што заключэнне Алеся Бяляцкага адвольнае з пункту гледжання міжнароднага права, і падкрэслівае права на фінансаванне незалежных НДА. Алесь Бяляцкі павінен быць неадкладна вызвалены, і ганенні супраць праваабаронцаў павінны быць спынены.

*Джэральд СТЭЙБРОК, генеральны сакратар Сусветнай арганізацыі супраць катаванняў:*

— Мы вітаем прыняцце гэтай важнай рэзалюцыі, праз якую Савет па правах чалавека ААН заклікае да больш надзейнай абароны такіх суб'ектаў перамен і гарантаў свабоднага грамадства. Дзяржавы абавязаны забяспечыць умовы, каб праваабарончыя НДА мелі магчымасць доступу да фінансавання.

*Вольга АБРАМЕНКА, дырэктар АДЦ "Мемарыял" у Санкт-Пецярбургу:*

— Новыя законы, прынятыя ў Расійскай Федэрацыі для рэгулявання НДА, выкарыстоўваюцца для нападу на грамадзянскую супольнасць: у дадзены момант у Маскве, Санкт-Пецярбургу і іншых месцах Расіі шмат якія незалежныя НДА адначасова правяраюцца паліцыяй, пракурорамі і нават падатковай і пажарнай інспекцыямі з асаблівым акцэнтам на крыніцы фінансавання. Гэта відавочна рэпрэсіўная кампанія супраць абаронцаў правоў чалавека, і таму важна атрымаць міжнародную салідарнасць і падтрымку.



# Праваабарончы цэнтр "Вясна"
## распачаў працу ў новым офісе

**1 красавіка, у дзень адкрыцця новага офісу ПЦ "Вясна", праваабаронцы прэзентавалі новыя аналітычныя выданні, акрэслілі планы на будучыню і расставілі прыярытэты ў сваёй дзейнасці на бягучы момант.**

Знайсці новае памяшканне пад офіс пасля канфіскацыі папярэдняга было для арганізацыі вялікай цяжкасцю. Як сказаў падчас прэс-канферэнцыі намеснік старшыні праваабарончага цэнтру Валянцін Стэфановіч, у тых умовах, у якіх працуе "Вясна", "пажадана, каб чалавек, які пагодзіцца прадаставіць нам кватэру, не меў у Беларусі ні сям'і, ні бізнесу. Так што гаспадар гэтай кватэры не пражывае ў Беларусі, мы карыстаемся ёю на падставе даверанасцяў з максімальна шырокімі правамі і паўнамоцтвамі. Таму спадзяюся, што мы тут застанемся на доўгі час".

Нягледзячы на перашкоды з боку ўладаў, у сценах новага офісу "Вясна" будзе працягваць усе накірункі сваёй дзейнасці, падкрэсліў Стэфановіч.

"Наша праваабарончая арганізацыя абсалютна легітымная, пераследуе легітымныя мэты. Адзначу, што апошняя рэзалюцыя Рады па правах чалавека ААН якраз гэта яскрава падкрэсліла: дзяржавы маюць не толькі негатыўныя абавязацельствы – неўмяшальніцтва ў легітымную дзейнасць праваабарончых арганізацый, але і пазітыўныя – стварэнне грамадзянам умоваў для рэалізацыі права на абарону правоў і інтарэсаў іншых асобаў, у тым ліку ўмоваў для атрымання фінансавання, у тым ліку з-за мяжы, паколькі Дэкларацыя аб праваабаронцах гарантуе магчымасць такога фінансавання. І, дарэчы, у рашэнні Працоўнай групы па адвольных затрыманнях ААН, якое нядаўна было прынята па справе кіраўніка Праваабарончага цэнтра "Вясна" Алеся Бяляцкага, менавіта так і разглядаецца свабода асацыяцыяў у кантэксце Артыкула 22 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах – як не толькі дзейнасць, але і магчымасць атрымання фінансавання. Таму, зыходзячы з гэтага, мы і будзем працягваць сваю дзейнасць".

З моманту канфіскацыі офісу ў мінулым лістападзе праца "Вясны" не спынялася, нягледзячы на адсутнасць памяшкання. Грамадская прыёмная працавала ў офісе Руху "За свабоду" і Камітэта дапамогі рэпрэсаваным "Салідарнасць", а ў праваабаронцаў быў час, каб засяродзіцца на аналітычнай працы. У выніку з'явіліся некалькі аналітычных выданняў - штогадовы агляд-хроніка "Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі" і "Справаздача па выніках маніторынгу месцаў прымусовага ўтрымання ў Рэспубліцы Беларусь".

Маніторынг беларускай пенітэнцыярнай сістэмы з'яўляецца адным з напрамкаў дзейнасці праваабаронцаў "Вясны".

**(працяг на 4 стар.)**

Найперш мы ставілі перад сабой задачу данесці да грамадскасці інфармацыю пра сітуацыю, якая склалася ў месцах прымусовага ўтрымання ў Беларусі, і, не ў апошнюю чаргу, даць зразумець, што гэтыя праблемы сістэмныя, то бок, яны залежаць не толькі ад волі тых, хто зараз выконвае пакаранне, кіруе гэтымі месцамі пазбаўлення волі. Гэта праблемы, якія

## Праваабарончы цэнтр “Вясна” распачаў працу ў новым офісе

(пачатак на стар. 3)

выцякаюць з самой сутнасці нашых пенітэнцыярных нормаў”, - сказаў Павел Сапелка, прэзентуючы выданне. Па словах эксперта, гэтая аналітычная справаздача – толькі першы крок, і праца па дадзенай праблеме будзе працягвацца, усе пытанні, закранутыя ў справаздачы, будуць даследвацца і надалей больш паглыблена і шырока.

Увогуле праваабаронцы “Вясны” агучылі багата планаў на будучыню. У хуткім часе ў ААН будзе накіраваны прамежкавы аналітычны даклад па выкананні Беларуссю абавязальніцтваў у межах Універсальнага перыядычнага агляду, гэты дакумент “Вясна” рыхтуе сумесна з Беларускім Хельсінкскім Камітэтам, Беларускай асацыяцыяй журналістаў і Асамблеяй НДА. “Вясноўцы” збіраюцца назіраць на мясцовых выбарах 2014 года і на прэзідэнцкіх у 2015 годзе ў межах кампаніі “Праваабаронцы за свабодныя выбары”. А паміж гэтымі падзеямі па-ранейшаму - бягучая праваабарончая праца.

Падвынікаваўшы папярэднюю працу і акрэсліўшы планы на будучыню, Валянцін Стэфановіч больш падрабязна спыніўся на бягучай сітуацыі. Тут ён падкрэсліў, што на сённяшні дзень для “Вясны” пытаннем нумар адзін застаецца вызваленне палітычных зняволеных. “На жаль, 2012 год не стаў вырашальным у гэтым сэнсе. Усе мінулагоднія вызваленні палітвязняў былі звязаныя з прашэннямі аб памілаванні, і гэты працэс вызвалення не пайшоў далей”. Праваабаронцы лічаць, што Еўразвяз у дадзенай сітуацыі праяўляе прынцыповую пазіцыю, калі настойвае на вызваленні палітычных вязняў як на перадумове далейшага наладжвання дыялогу. “Са снежня мінулага года мы назіраем даволі актыўную камунікацыю прадстаўнікоў амбасадаў краінаў Еўразвяза з міністрам замежных спраў Беларусі. Мы, канешне, не з'яўляемся суб'ектам гэтых працэсаў і нам цяжка казаць, пра што ідзе гаворка, - сказаў Стэфановіч. - Відавочна, што пытанне вызвалення палітвязняў падчас гэтых кантактаў абмяркоўваецца. Мы можам меркаваць пра гэта з заяваў, якія робяцца прадстаўнікамі тых ці іншых міністэрстваў замежных справаў. Напрыклад, амбасадара Італіі ці МЗС Літвы (пра спадзяванні на нармалізацыю стасункаў Еўразвяза з Беларуссю ў выніку вызвалення палітычных вязняў). Аднак, як нам падаецца, у гэтым працэсе не трэба мець ніякіх ілюзіяў. Я не думаю, што рэжым будзе здольны і згодны на правядзенне якіх-небудзь ліберальных рэформаў, ці, як зараз гэта называюць, мадэрнізацыі палітычнай ды і эканамічнай сістэмы”.

Па ацэнках праваабаронцаў, сёння можна казаць хіба што пра змяншэнне выпадкаў крымінальнага пераследу па палітычных матывах. “Але нам падаецца, што пра нейкія больш шырокія рэформы, якія б сведчылі пра лібералізацыю ў краіне, казаць не выпадае. Заканадаўства ў перыяд пасля снежня 2010 года стала яшчэ больш рэпрэсіўным. І ўсе праблемы рэалізацыі грамадзянскіх правоў у Беларусі застаюцца вельмі актуальнымі, паколькі і свабода мірных сходаў, і свабода асацыяцыяў, і шэраг іншых грамадзянскіх і палітычных свабодаў максімальна лімітаваныя”, - сказаў у гэтай сувязі Стэфановіч.

Ён нагадаў, што напярэдадні прэзідэнцкія выбары 2015 года, у сувязі з чым зараз немагчыма прагназаваць, як будзе разгортвацца сітуацыя ў Беларусі. “У нас ёсць прыклады 2008-га, 2010-га гадоў, калі ўсе казалі пра лібералізацыю, але мы памятаем, чым усё гэта скончылася. Гэта 19 снежня 2010 года, небывалая хваля палітычных рэпрэсіяў, наступствы якіх мы адчуваем і зараз. У дакладзе, што нядаўна “Вясна” падрыхтавала сумесна з Міжнароднай федэрацыяй за правы чалавека, мы сфакусаваліся не толькі на сённяшніх палітвязнях, але і на палітрэпрэсаваных. На момант напісання дакладу 40 чалавек мелі тыя ці іншыя абмежаванні. То бок, тыя, хто быў вызвалены ў 2011-2012-м, дагэтуль знаходзяцца на прафілактычным уліку, іх судзімасці не пагашаныя, што дазваляе ўладам трымаць гэтых людзей на кароткім ланцужку. Кожны дзень яны рызыкуюць пры пэўных умовах зноўку апынуцца за кратамі”.

Зыходзячы з сённяшняй сітуацыі, як падкрэсліў Стэфановіч, можна толькі спадзявацца на як мага хутчэйшае вызваленне палітычных вязняў, у тым ліку кіраўніка ПЦ “Вясна” Алеся Бяляцкага.

spring96.org



# Любові Кавалёвай не адказалі, якая структура ў Беларусі займаецца выкананнем смяротных прысудаў

Маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва, абвінавачанага ў тэрарызме пасля выбуху ў мінскім метро, хоча ведаць падрабязнасці пра апошнія хвіліны сына, якога лічыць неправасудна пакараным сьмерцю. Яна спрабуе высветліць, якая структура выканала смяротны прысуд, вынесены Вярхоўным судом у дачыненні яе сына.

Любоў Кавалёва дасылала запыты пра гэта ў некалькі інстанцый. Рабіла гэта паслядоўна, калі з адной структуры яе перанакіроўвалі ў іншую.

- Спачатку я напісала старшыні Камітэту дзяржбяспекі, бо Улада да апошняга трымалі ў СІЗА КДБ. Атрымала ліст за подпісам самога старшыні, Валерыя Вакульчыка, дзе напісана, што гэтае пытанне – па-за кампетэнцыяй КДБ. І што звяртацца трэба ў Вярхоўны суд, бо менавіта туды, паводле артыкула 175 Крымінальна-выканаўчага кодэксу, прыходзіць паведамленне, што прысуд выкананы. Але намеснік старшыні Вярхоўнага суду Валеры Калінковіч таксама адказаў, што гэта па-за іхнай кампетэнцыяй. І прапанаваў звярнуцца ў Дэпартамент выканання пакаранняў.

На запыт у ДВК я атрымала адказ зноў толькі са спасылкай на артыкул 175. У частцы 5 там згадваецца "установа, якая выконвае смяротны прысуд" – што яна мусіць паведаміць пра выкананне суду, які вынес такі вырак, а адтуль мусяць напісаць сваякам. Паведамленне з Вярхоўнага суду мы атрымалі, але дабіцца, што за "установа" займаецца расстрэламі асуджаных, пакуль не ўдалося. Усё засакрэчана! Усе ведаюць, які парадак зацьверджання смяротных прысудаў, а вось хто іх выконвае і дзе іх выконваюць, не ведае ніхто. Гэта чарговая таямніца, зацверджаная беларускім заканадаўствам", -- распавяла Любоў Кавалёва.

Маці расстралянага Уладзіслава Кавалёва ўжо звярталася ў розныя інстанцыі, у тым ліку і да Прэзідэнта РБ, з просьбай аддаць ёй цела расстралянага сына, якога лічыць несправядліва асуджаным паводле неабгрунтаванага абвінавачання следства. Зважаючы на гэта, яна прасіла хаця б указаць месца, дзе ён пахаваны. Але адусюль атрымлівала толькі адмоўныя адказы. Нічога не патлумачылі Любові Кавалёвай і пра знікненне ў СІЗА КДБ запісаў сына, якія ён вёў падчас суду – гэтыя запісы проста зніклі, нібыта ў іх утрымліваліся нейкія сакрэтныя звесткі. Хаця па законе маёмасць пакаранага смерцю мусіць перадавацца сваякам…

Спадарыня Кавалёва збіраецца працягваць высвятленне акалічнасцяў выканання смяротнага прысуду і далей: адмовы паведаміць, якая структура выконвае смяротныя прысуды, яна хоча абскардзіць у вышэйшых інстанцыях.

Яна выступае і за адмену смяротнага пакарання ў Беларусі ўвоуле: з улікам верагоднасці памылак следства, гэтая мера з'яўляецца неапраўданай, калі потым высвятляецца, што расстралялі невінаватых. Любоў Кавалёва лічыць, што смяротнае пакаранне недапушчальнае ў цывілізаванай краіне, бо яна змушае на пакуты і асуджаных, і іхных сваякоў, для якіх вечнай таямніцай застаюцца акалічнасці пакарання.

**spring96.org**

# Праваабаронца: Не выконваючы рашэнні Камітэта ААН, урад парушае канстытуцыю



Амаль 20 гадоў прайшло з моманту, як беларусы атрымалі права падаваць індывідуальныя скаргі ў Камітэт па правах чалавека. Аднак беларускі ўрад да гэтага часу адмаўляецца выконваць рашэнні ААН. Напярэдадні Дня Канстытуцыі Беларусі Еўрарадыё паразмаўляла з **кіраўніком Гомельскага Цэнтра стратэгічнай цяжбы, праваабаронцам Леанідам Судаленкам.**

Еўрарадыё: Як часта беларусы скардзяцца ў ААН?

Леанід Судаленка: На сённяшні дзень Камітэт па правах чалавека зарэгістраваў каля 150 індывідуальных паведамленняў беларускіх грамадзян, якія заявілі ў адпаведнасці з артыкулам 61 Канстытуцыі аб парушэнні сваіх правоў і свабод. У дачыненні да 43 з іх устаноўлены факты парушэння правоў, гарантаваных беларусам Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах, нязначная частка спраў была спыненая ў сувязі з згубленымі кантактамі з аўтарамі, астатнія справы чакаюць сваёй чаргі на разгляд.

**(працяг на 6 стар.)**

**Еўрарадыё: Што адбываецца пасля прыняцця рашэння?**

Леанід Судаленка: Камітэт па правах чалавека накіроўвае тэкст прынятага рашэння непасрэдна самому аўтару і ўраду краіны, паказваючы, якія крокі павінен рабіць урад у дачыненні да прынятага рашэння. Як правіла, рашэнне ўтрымлівае патрабаванні індывідуальнага і агульнага

## Праваабаронца: Не выконваючы рашэнні Камітэта ААН, урад парушае канстытуцыю

(пачатак на стар. 5)

характару. У якасці выканання індывідуальных мер урад, напрыклад, абавязаны аднавіць аўтара ў правах, даць эфектыўныя сродкі прававой абароны, выплаціць кампенсацыі, кампенсаваць аўтару панесеныя па справе выдаткі. Часта па крымінальных справах Камітэт па правах чалавека патрабуе вызваліць аўтара з-пад варты і правесці новае судовае разбіральніцтва. Мерамі агульнага характару могуць з'яўляцца патрабаванні прыцягнуць вінаватых у парушэннях асоб да адказнасці, неабходнасць змены нацыянальнага заканадаўства, крокі па недапушчэнні аналагічных парушэнняў у будучыні. Акрамя таго, урад заўжды абавязаны апублікаваць прынятае рашэнне на дзяржаўнай мове ў прэсе, а таксама на працягу шасці месяцаў паведаміць аб прынятых мерах.

**Еўрарадыё: Як урад Беларусі рэагуе на рашэнні, што прымаюцца?**

Леанід Судаленка: Да гэтага часу ніводнае з прынятых Камітэтам па правах чалавека рашэнняў не выканана нашай краінай у добраахвотным парадку як у дачыненні да індывідуальных мер, так і ў дачыненні да мер агульнага характару. Прызнаныя ахвяры парушэнняў не атрымліваюць кампенсацый, урад краіны не рэагуе на патрабаванні аб неабходнасці змены нацыянальнага заканадаўства, адмаўляецца публікаваць прынятыя ў дачыненні да яе грамадзян рашэнні, а таксама не робіць крокаў па недапушчэнні аналагічных парушэнняў у будучыні.
Афіцыйная перапіска па гэтым пытанні з дзяржаўнымі органамі паказвае, што беларускія чыноўнікі лічаць прынятыя ў ААН рашэнні як тыя, якія носяць рэкамендацыйны характар. Адказваючы на адзін з запытаў аб неабходнасці выканання прынятых на міжнародным узроўні рашэнняў, першы намеснік міністра замежных спраў паказаў, што гэтыя рашэнні для чыноўнікаў носяць рэкамендацыйны характар і не накладаюць на краіну абавязацельстваў па іх выкананні.

**Еўрарадыё: А ці ёсць у Беларусі спецыяльнае для выканання такіх рашэнняў заканадаўства?**

Леанід Судаленка: Кожная краіна па-свойму выконвае рашэнні, якія прымаюцца на міжнародным узроўні. Украіна прыняла адмысловы закон, накіраваны на выкананне рашэнняў міжнародных інстанцый, з прыходам новага ўрада аналагічны Закон быў распрацаваны і ў Кыргызстане. У Расіі выкананне ажыццяўляецца праз працэсуальнае заканадаўства. Нашай краіне "вынаходзіць ровар" не патрабуецца: як кажуць — было б жаданне.
У артыкуле 8 Канстытуцыі нашай краіны замацавана палажэнне, згодна з якім Рэспубліка Беларусь прызнае прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і забяспечвае адпаведнасць ім заканадаўства. Прызнанне краінай прыярытэту агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права на практыцы павінна вызначаць развіццё ў гэтым напрамку ўсёй прававой сістэмы ў цэлым.
Міжнародныя дагаворы падлягаюць добрасумленнаму выкананню Рэспублікай Беларусь у адпаведнасці з міжнародным правам, так прапісана ў нацыянальным законе "Аб міжнародных дагаворах". Адным з ратыфікаваных міжнародных дагавораў нашай краіны з'яўляецца Факультатыўны пратакол да Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, паводле якога Беларусь выступіла ў якасці самастойнага боку міжнароднай дамовы і выказала згоду на абавязковасць для яе нормаў Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Пры гэтым Рэспубліка Беларусь, з'яўляючыся самастойным удзельнікам міжнароднага дагавора, з прычыны Венскай канвенцыі аб праве міжнародных дагавораў не можа спасылацца на палажэнні свайго ўнутранага права ў якасці апраўдання для невыканання зняволенага дамовы.
Як бачым, досыць у працэсуальныя кодэксы ўнесці дапаўненні аб прыярытэце рашэнняў Камітэта па правах чалавека ААН над рашэннямі нацыянальных судоў без прымянення тэрмінаў даўніны — і ўсё, справа зрушыцца з мёртвай кропкі. Наступным крокам можа быць і прыняцце спецыяльнага закона, аднак падкрэсліваю: унясенне дапаўненняў ва ўжо дзеючае заканадаўства здольна паскорыць гэтыя крокі.

**Еўрарадыё: З'явілася інфармацыя аб стварэнні ў Беларусі з вашым удзелам арганізацыі, якая будзе займацца праблемай невыканання рашэнняў Камітэта па правах чалавека.**

Леанід Судаленка: З кожным годам у Беларусі з'яўляецца ўсё больш і больш прызнаных Камітэтам па правах чалавека ахвяр парушэнняў з боку дзяржавы грамадзянскіх і палітычных правоў. Напрыклад, наша арганізацыя выйшла на той узровень, калі за мінулы год Камітэт па правах чалавека прыняў 5 новых рашэнняў па скаргах жыхароў Гомельскага рэгіёну, 9 новых паведамленняў атрымалі рэгістрацыю і накіраваны ўраду для камунікацыі.
Іншымі словамі, пытанне аб выкананні прынятых рашэнняў з кожным днём будзе гучаць усё гучней і гучней. У нас сапраўды нарадзілася ідэя стварыць рэспубліканскую арганізацыю, якая будзе займацца выключна пытаннямі выканання на тэрыторыі Беларусі прынятых у Камітэце па правах чалавека рашэнняў. Мы бачым яе як пляцоўку, на якой будзе ісці дыялог па гэтым пытанні, у тым ліку і з урадам краіны. У склад арганізацыі мы прапануем ўвайсці ўсім, хто атрымаў перамогу на міжнародным узроўні, а таксама ўсім, хто піша ў Камітэт па правах чалавека скаргі і людзям, што раздзяляюць гэтую пазіцыю.
У любой краіне аб'яднанне людзей адбываецца там, дзе ўрад не заўважае праблемы. Калі аб праблеме маўчаць, вядома, яна ніколі не ссунецца з мёртвай кропкі.

# Гомель: праваабаронцы паскардзіліся ў Камітэт па правах чалавека ААН

*Напярэдадні свята беларускай Канстытуцыі гомельскія праваабаронцы Анатоль Паплаўны і Леанід Судаленка накіравалі скаргу ў Камітэт па правах чалавека ААН. Заяўнікі лічаць, што іх правы на свабоду мірных сходаў і выказванне меркаванняў, прадугледжаныя артыкуламі 19 і 21 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, былі парушаны беларускімі ўладамі.*

24 сакавіка 2012 года напярэдадні Дня Волі Анатоль Паплаўны і Леанід Судаленка з мэтаю прыцягнуць увагу грамадкасці вакол утрымання ў месцах пазбаўлення свабоды палітычных зняволеных меркавалі правесці у абласным цэнтры пікет. Гарадскія ўлады масавае мерапрыемства не дазволілі. Усе суды – раённы, абласны, Вярхоўны, а таксама пракуратура дзе абскарджвалі дадзенае рашэнне праваабаронцы, сталі на бок уладаў.

У скарзе ў Камітэт па правах чалавека ААН заяўнікі звяртаюць увагу, што ў амаль 500-тысячным горадзе Гомелі ўлады вызначылі толькі адно месца для правядзення пікетаў і мітынгаў, а за правядзенне мірных сходаў грамадзяне, згодна рашэнню гарвыканкама, павінны яшчэ і заплаціць — міліцыі, хуткай дапамозе і камунальным службам.

Анатоль Паплаўны і Леанід Судаленка лічаць, што РБ не выконвае свае міжнародныя абавязкі, паколькі нацыянальны закон «Аб масавых мерапрыемствах» утрымлівае двухсэнсоўныя і расплыўчатыя нормы, якія могуць тлумачыцца і тлумачацца па-рознаму.

Леанід Судаленка і Анатоль Паплаўны просяць Камітэт ААН устанавіць факт парушэння правоў грамадзян з боку дзяржавы і параіць беларускаму ўраду прывесці закон «Аб масавых мерапрыемствах» у адпаведнасць міжнароднымі абавязкамі.

Дарэчы, ў тым годзе Камітэт па правах чалавека ААН разгледзеў скаргу гамяльчаніна Уладзіміра Шуміліна, у якой акрамя канстатацыі парушэння з боку дзяржавы яго правоў, абавязаў беларускія ўлады прывесці нацыянальнае заканадаўства аб масавых мерапрыемствах у адпаведнасць з Міжнародным пактам аб грамадзянскіх і палітычных правах. Дадзеную скаргу дапамагалі рыхтаваць праваабаронцы.

**gomelspring.org**

# Былы мэр Гомеля звярнулася ў Камітэт па правах чалавека

Былы старшыня Гомельскага гарвыканкама Святлана Гальдадзе скардзіцца ў Камітэт па правах чалавека ААН на забарону ёй сумесна з мясцовымі праваабаронцамі Анатолем Паплаўным ды Леанідам Судаленка правесці ў абласным цэнтры 4 жніўня мінулага году пікету ў падтрымку зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

*- Пікет мы малі намер правесці 4 жніўня таго года - у гэты дзень быў затрыманы Алесь Бяляцкі. Масавае мерапрыемства ў нас было запланавана з мэтай звярнуць увагу грамадскасці на праблему палітычных зняволеных, і не толькі Алеся Бяляцкага, якога, як мы лічым, асудзілі незаконна, - заявіла былы мэр Гомеля Святлана Гальдадзе.*

Яна адзначыла, што акцыя ў падтрымку Алеся Бяляцкага планавалася як агульнарэспубліканская, якая праводзілась па ініцыятыве праваабаронцаў. Заяўкі на пікеты былі пададзеныя ва ўсіх абласных цэнтрах і іншых гарадах краіны і паўсюду мірныя сходы грамадзян былі забаронены.

Раённы суд, дзе абскарджвалась забарона стаў на бок гарвыканкама, а абласны суд зацвердзіў рашэнне раённага. Таксама і Вярхоўны суд, дзе абскарджвалася рашэнне, не задаволіў скаргу. Такім чынам унутраныя сродкі прававой абароны былі вычарпаныя, засталося спадзявацца на міжнародную інстанцыю - Камітэт па правах чалавека ААН.

Святлана Гальдадзе просіць Камітэт ААН ўстанавіць факт парушэння яе разам з праваабаронцамі правоў на свабоду правядзення мірных сходаў і свабоду выказвання меркавання з боку дзяржавы і рэкамендаваць беларускаму ўраду прывесці закон "Аб масавых мерапрыемствах", а таксама рашэнне мясцовай улады аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у адпаведнасць з міжнароднымі абавязацельствамі.

**gomelspring.org**





# Гомельскі абласны суд знайшоў новы спосаб абмежавання правоў грамадзян

Як паведаміў сайту gomelspring.org старшыня Гомельскай абласной арганізацыі Беларускай партыі левых "Справядлівы свет" Уладзімір Сякерка старшыня Гомельскага абласнога суда Сяргей Шаўцоў "вынайшаў" новы спосаб абмежавання канстытуцыйных правоў грамадзян - галоўны суддзя вобласці лічыць, што канстытуцыйныя правы можна абмяжоўваць пры наяўнасці аб'ектыўных абставін.

Палітык прыйшоў да такой высновы азнаёміўшыся з адказам абласнога суда на скаргу арганізацыі, якую ён узначальвае ў сувязі з адмовай Гомельскай цэнтральнай гарадской паліклінікі заключыць дамову на медыцынскае абслугоўванне планаванага масавага мерапрыемства.

*"Адмова ў заключэнні дагавора звязана з тым, што ў гэты дзень запланавана правядзенне традыцыйнай сустрэчы прыгранічных абласцей Рэспублікі Беларусь, Расійскай Федэрацыі і Украіны каля манумента Дружбы. У сувязі з правядзеннем дадзенага мерапрыемства запланавана праца брыгад хуткай дапамогі на выпадак надзвычайных сітуацый. Таксама ў гэты дзень брыгада хуткай дапамогі была задзейнічана ва ўрачыстым мерапрыемстве з нагоды выпуску афіцэраў Гомельского інстытута МНС.*

*Акрамя таго, масавае мерапрыемства арганізацыя запланавала ў выходны дзень, калі не працуюць паліклінікі і асноўную нагрузку па аказанні медыцынскай дапамогі нясе хуткая медыцынская дапамога", - напісаў у адрас "Справядлівага свету" старшыня абласнога суду.*

*«Пры такіх абставінах суды правільна падтрымалі адмову гарадской паліклінікі заключыць дамову на медыцынскае абслугоўванне масавага мерапрыемства, якая была выклікана аб'ектыўнымі абставінамі", - паставіў кропку у гэтай справе Сяргей Шаўцоў.*

Лідэр гомельскіх левых з пазіцыяй галоўнага суддзі вобласці не згодны і лічыць, што калі раней суддзі спрабавалі хоць неяк зачапіцца за законныя падставы, то цяпер яны не саромеючыся пачынаюць апраўдваць беззаконьне незаконнымі аб'ектыўнымі абставінамі.

*"Любому студэнту юрфака вядома, што абмежаванні правоў грамадзян дакладна прапісаны ў Канстытуцыі і пашыранаму тлумачэнню не падлягаюць. Старшыня абласнога суда робіць выгляд, што гэтага не разумее, таму наша задача паставіць яго і ўсіх суддзяў, якія прымаюць удзел у дадзенай справе ў тое становішча, якое яны заслугоўваюць. Мы абавязкова вычарпаем усе ўнутраныя сродкі прававой абароны і звернемся з скаргай у Камітэт ААН па правах чалавека, рашэнне якога не будзе мець тэрміну даўніны. Няхай потым суддзі сваім унукам распавядаюць, як яны жылі ў такі цяжкі час, калі судзілі не па законе, а зыходзячы з аб'ектыўных абставінаў", - падвёў рысу лідэр гомельскіх камуністаў.*

**gomelspring.org**

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.